




ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 1 (46) СТУДЗЕНЬ 2006 г.

**У нумары:**



**Кастусь Шыдлоўскі**

# З літаратурнага краязнаўства. Браслаўшчына на старонках літаратурных твораў

Адным з напрамкаў даследаванняў роднага краю з'яўляецца літаратурнае краязнаўства. Пры гэтым вывучаюцца мясцовыя карані вядомых пісьменнікаў і паэтаў, сувязі літаратараў з рэгіёнам і г.д. Краязнаўцамі Браслаўшчыны назапашаны пэўны матэрыял, звязаны з землякамі літаратарамі: В.Савічам-Заблоцкім, Я.Ліманоўскім, Ю.Буйноўскім, Я.Фёдаравым, М.Дварэцкім, А.Друянавым і інш. Асобныя матэрыялы па літаратурнаму краязнаўству з'яўляліся на старонках "Павета". Мэта гэтага артыкула паказаць, на старонках якіх літаратурных твораў можна сустрэць Браслаўшчыну. Паспрабуем пры гэтым прасачыць прычыны, на падставе якіх наш край уключаўся ў сюжэтную лінію таго ці іншага твору. У агляд не ўключаны паэтычныя творы, аўтары якіх перадаюць чытачу ўражанні ад сустрэчы з маляўнічай прыродай, гістарычнымі мясцінамі, людзьмі Браслаўшчыны.

Пераважна на мясцовым матэрыяле напісана гістарычнае апавяданне "Опсаўская старосціха" польскага пісьменніка Антоні Юзафа Роллі (1829–1894 гг.). Гэта быў не толькі пісьменнік, але і лекар, грамадскі дзеяч, які жыў у Камянец-Падольску. Пісьменніцкі псеўданім Роллі – Доктар Антоні. Пісьменнік падтрымліваў сувязі з Уладзімірам Плятарам (1831–1906 гг.), вядомым калекцыянерам, бібліяфілам, выдаўцом гістарычных крыніц. Плятары былі ўладальнікамі вялікіх маёнткаў на Браслаўшчыне. Дарэчы, У.Плятар памёр у Опсе 6 красавіка 1906 года. У 1882–1900 гадах яму належалі невялікія ўладанні непадалёку ад Камянец-Падольска. У.Плятар пазнаёміў А.Роллі з падзеямі, якія адбываліся на Браслаўшчыне ў XVIII ст. Гэтыя матэрыялы і заахвоцілі пісьменніка напісаць апавяданне. У аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве, які размешчаны ў палацы Красінскіх, захоўваецца асобная папка з рабочымі матэрыяламі да апавядання. Дарэчы, дакументы архіва сведчаць аб тым, што А.Роллі падтрымліваў цесныя сувязі з сястрой браслаўскага лекара Станіслава Нарбута Тэадорай Маньчунскай (1839–1925 гг.). У сюжэт апавядання лягла рэальнай гісторыя змагання двух шляхецкіх партый на чале са Струтынскімі і Цеханавецкімі. Адной з прычын разладу быў шлюб опсаўскага старосты Яна Цеханавецкага з Ядвігай Струтынскай. Шлюб аказаўся нешчаслівым і завяршыўся разводам, а Ян Цеханавіцкі быў забіты ў Браславе падчас шляхецкага сойміку. Ядвіга Струтынская апынулася ў сталіцы, на пэўны час стала каханкай караля Станіслава Аўгуста. Калі каралю надакучыла каханка, ён прапанаваў ажа-



**Палац у Бяльмонтах. Акварэль Напалеона Орды. 1876 г. У канцы XVIII ст. палац набыў граф Мікалай Мануцці, адзін з герояў апавядання А.Роллі.**

ніцца з ёй італьянца Мікалая Мануцці. За паслугу Мануцці ўзнагародзілі Опсаўскім староствам, пазней ён пашырыў уладанні, у тым ліку набыў маёнтак у Бяльмонтах. У гэтым маёнтку выхоўваўся сын Мануцці і Ядвігі Станіслаў. Хадзіла пагалоска, што сапраўдным бацькам Станіслава быў кароль. Гэта гісторыя была добра вядома ў Рэчы Паспалітай. У пачатку XIX ст. уладанні Мануцці перайшлі да Плятараў.

Гістарычнае апавяданне А.Ролі невялікае па аб'ёму, мае 6 раздзелаў і па свайму стылю хутчэй нагадвае не літаратурны твор, а гістарычны нарыс з мастацкімі адступленнямі. Адно з іх – апісанне прыгажосці гераіні апавядання Ядвігі Струтынскай: "*...Гэтая пані была неверагодна пекная. Як раз перада мной яе настольны партрэт. Калісьці ён аздабляў адну са сцен апартаментаў Станіслава Аўгуста. Калі ўзіраешся ў гэтае адлюстраванне, то не дзівішся, што яму было вызначана такое пачэснае месца. Бачу бландынку з трохі выцягнутым тварам і цемнаватымі вачыма, з надзвычай правільнымі рысамі. Мастак змясціў на яе вуснах салодкую, трохі спакуслівую ўсмешку, яе пышныя грудзі прыкрыў празрыстай заслонай, але гэтым толькі ўзмацніў спакусу. Наіўнасць і жарсць, кранальная пачуццёвасць і прастата аб'яднаны разам. Сціплая кветачка ружы над левай скроняй, заплеценая ў касічку, непрысыпаную пудрай, нахіленая спакуслівa лебядзіная шыя... Усё разам патыхае такім дзіўным зачараваннем...*".

Твор А.Ролі друкаваўся з працягам у вельмі папулярным варшаўскім выданні „Tygodnik ilustrowany" ("Ілюстраваны штотыднёвік"), № № 146 – 152, 1885 г. Яго можна знайсці таксама ў пазнейшых зборах твораў пісьменніка. Напрыклад: Dr.Antoni. Wybór pism. Kraków. 1966. т.1.

Браслаўшчына, а дакладней – наваколле Богінскага возера, згадваецца ў аповесці "Лабірынты" Вацлава Ластоўскага. Вацлаў Ластоўскі (1883–1938 гг.), выдатны беларускі дзеяч, асоба рознабаковых талентаў. Быў грамадска-палітычным дзеячам, гісторыкам, філолагам, пісьменнікам. В.Ластоўскі ўдзельнічаў у абвяшчэнні незалежнасці Беларусі 25 сакавіка 1918 г., выконваў функцыі прэм'ер-міністра Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзеянне аповесці "Лабірынты" адбываецца ў Полацку і звязана з таямнічымі падземнымі хадамі, духоўнымі скарбамі, прыхаванымі ў гарадскіх лёхах. Адзін з герояў – полацкі мешчанін Грыгор Н. "*...які ўпарта гаварыў толькі па-беларуску, а часам прытвараўся, што не разумее некаторых слоў па-расійску...*" У яго была мянушка – Падземны чалавек. Падземны чалавек быў добрым знаўцам полацкіх таямніц, але і не толькі полацкіх. У адным з момантаў ён кажа: " *– Я там не ведаю, якоеназванне насілі святары дахрысціянскіх часоў. А што яны займаліся астраноміяй – гэта пэўнае. Ваша, хіба ведаеш, – звярнуўся да мяне, – Богінскае возера? Цікавы закутак! Уся ваколіца поўна старога жыцця. На востраве ёсць паўвостраў Богіна, а таму Богіна, што там былі знамянітыя бажніцы. У канцы возера ідуць валатоўкі бронзавага веку, на пясчыстым урочышчы; гэта месца – жалю, смутку, па-нашаму – могілкі – носіць найменне Жаль-Бор. На востраве, яшчэ да скасавання паншчыны, трымаўся высокі капец, у сярэдзіне каторага была старой веры бажніца з адзіным аконцам, праз якое прамень сонца ўсярэдзіну падаў толькі роўна ў поўдзень. Капец гэты ўзарвалі маскалі ў часе польскага паўстання, думаючы, што гэта нейкая крэпасць. Там, у Богіне, ёсць такжа падземныя хады, як у нас, пад Верхнім замкам, у сярэдзіне гары. Старая вера і старая культура не загінулі...*"



**Богінская царква. У вёсцы да гэтай пары можна пачуць паданні аб падземным ходзе, які злучае храм з вострвам Гарадзішча**

З маленства добра ведаю Богінскае наваколле і сам неаднойчы чуў розныя паданні, звязаныя з востравам Гарадзішча, дзе стаяла капліца, з каменнай фігурай стода, пазней нібыта скінутага ў возера. Многія старыя людзі верылі ў існаванне падземных хадоў ад возера да царквы, звярталі ўвагу, якія старажытныя славянскія назвы характэрны для наваколля: Богіна, Стуканы, Стаўрова, Церанцейкі, Макавей. Побач з Богіна ёсць старажытныя курганы-валатоўкі. Археолагі засведчылі, што ў Полацкія часы наваколле возера было заселена выключна славянамі-крывічамі.

Але адкуль пра гэтыя асаблівасці Богінскага наваколля ведаў В.Ластоўскі? Паходзіў ён з Дзісенскага павета, з тэрыторыі бліжэй да Глыбокага. Аднак у складзе гэтага павета было і Богіна. Можа, мясцовыя гісторыі пачуты аўтарам аповесці яшчэ ў дзяцінстве? А, можа, хто расказаў іх пісьменніку пазней? Наўрад ці ўдасца высветліць...

Аповесць "Лабірынты", напісаная ў 1923 годзе, калі В.Ластоўскі жыў у тагачаснай сталіцы Літвы Коўне, змяшчалася ў розных выданнях. Адно з выданняў, даступных сучаснаму чытачу: В.Ластоўскі. Бяздоннае багацце. Апавяданне, легенды, казкі, аповесці. Мінск. Юнацтва. 2001 год.

**(Працяг у наступны нумары)**

# Рыгор Барадулін у Браславе

*Прыезд у Браслаў аднаго з таленавіцейшых мастакоў слова, народнага паэта Беларусі "дзядзькі Рыгора" здавалася б павінен быў выклікаць фурор у гарадку. Аднак паэт вядомы сваёй грамадзянскай пазіцыяй адносна сённяшняй улады, таму ні ўрачыстага прыёму, ні афіш, і фактычная забарона асвятлення візіту ў раёнцы. Цяперашняя ілжывая ўлада не церпіць Прарокаў.*

*Сустрэча з Рыгорам Барадуліным адбылася 7 студзеня ў Браслаўскім касцёле Нараджэння Маці Божай. Касцёл* напоўнілі парафіяне і тыя з гараджан, хто як кольвеч даведаўся пра імпрэзу. Адбылася прэзентацыя новага зборніка паэзіі Р.Барадуліна "Ксты".

*Ініцыятарам і арганізатарам імпрэзы быў ксёндз Уладыслаў Завальнюк, пробашч касцёла Святых Сымона і Алены ў Менску. Браслаў стаў апошнім пунктам паездкі Р.Барадуліна па Віцебшчыне. Перад тым у той жа дзень народнага паэта віталі вернікі ў Докшыцах, Мёрах, Ідолце.*

*Браслаўская імпрэза доўжылася блізу чатырох гадзін. Ствараючы адмысловы настрой, пад сутарэннямі храма гучалі цудоўныя спевы харавых калектываў Чырвонага касцёла "Сымонкі" і "Голас душы". Асноўную частку сустрэчы правёў ксёндз Уладыслаў Завальнюк – гарачы прыхільнік таленту "дзядзькі Рыгора" і адзін з укладальнікаў зборніка "Ксты". Дарэчы, зборнік быў надрукаваны пад грыфам парафіі касцёла Святых Сымона і Алены.*

*Ксты – гэта слова, звязанае са словамі "крыж" (крест), "перст", "ксціцца", "перахрысціцца". У зборнік увайшлі творы Паэта на біблейскія тэмы, звязаныя з філасофскімі разважаннямі аўтара аб Веры, Вечнасці і іншымі духоўнымі катэгорыямі.*

*Натхнёна, прыгожа ксёндз Завальнюк распавядаў пра Паэта, працу над зборнікам. Пранікнёна, велічна, урачыста гучалі з амбона вершы са зборніка. Паводле меркавання У.Завальнюка "Ксты" – з'ява ўнікальная для еўрапейскай паэзіі. Ідзе праца па яго перакладу на ангельскую, нямецкую, польскую, украінскую, латвійскую мовы. Рыгор Барадулін за зборнік "Ксты" вылучаецца на Нобелеўскую прэмію. Прамоўца даводзіў да аўдыторыі, што "Ксты" – гэта адзін з важных унёскаў Беларусі ў еўрапейскую культуру.*

*Было адчувальна, што высокая духоўная паэзія знаходзіць водгук у прысутных парафіян, сярод якіх людзі розных узростаў і адукацыі – столькі было відаць прасветленых твараў.*

*На прэзентацыі зборніка выступалі Ала Сакалоўская, філолаг, адна з укладальнікаў кнігі, кінарэжысёр Уладзімір Арлоў, які здымае дакументальную стужку пра Р.Барадуліна.*

*Сам Паэт доўга не прамаўляў, толькі з тонкім гумарам павітаў прысутных. Затое аўтар зборніка меў шмат працы пасля афіцыйнай часткі. Больш за гадзіну Рыгор Барадулін падпісваў зборнікі, якія можна было набыць (кнігі разышліся імгненна). Кожнаму аўтар стараўся падабраць свае словы, а ўдзельнікам сустрэчы хацелася хаця б кораценька падзяліцца сваімі ўражаннямі.*

*Вось падпісваецца зборнік, падараваны музею. Рыгор Барадулін згадвае свой колішні візіт у музей. Экспазіцыя яму спадабалася, асабліва прыцягвалі этнаграфічныя рэчы, знаёмыя з маленства з Ушаччыны. Падчас кароткага абмену рэплікамі рука Паэта вывела: «Славутаму Браслаўскаму музею – быць жывым і неабходным усім! З паклонам Рыгор Барадулін. 7.1.06 г. Браслаў.»*



**Р.Барадулін падпісвае зборнік «Ксты» браслаўянам**

* * *

## З уступнага слова ксяндза Уладыслава Завальнюка

*Рабі дабро – і Госпад за гэта аддзячыць табе.*
*«Хай жа зло цябе не пераможа,*
*Ты дабром яго пераможы».*

У наш жорсткі час, калі людзі развучыліся любіць, шкадаваць, дараваць, спагадаць, быць міласэрнымі; калі пануе бездухоўнасць, уседазволенасць; калі пусцеюць храмы, а пасля і сэрцы чарсцвеюць; калі пакланяюцца не Усявышняму, а мамоне; калі забываюцца асноўныя хрысціянскія запаведзі, – кніга «Ксты» вельмі важная, патрэбная, каб задумацца, зазірнуць у душу. Кожны, хто яе прачытае, адродзіцца духам, бо яна – чыстая крыніца духоўнасці. Толькі дух, вера могуць узняць над прадоннем чалавека, нацыю.

«Беларусь адродзіцца Вераю».

Напісаў «Ксты» вялікі майстра слова. Рыгор Барадулін – чарадзей мовы. Яго мова – гэта цэлы свет, новы, непаўторны, яшчэ неспазнаны. Добра ведаючы будову беларускага слова, ён стварае свае, новыя словы, якія арганічна ўпісваюцца ў мову. І здаецца, што гэтае слова было, толькі ты яго не ведаў, бо чалавек жа не можа ведаць усе словы.

### МЫ УСЕ

Мы ўсе жывём пад зоркамі матуль.
І гэты свет
Сагрэлі нам матулі.
Сны нашы –
Дабравеснікі адтуль,
Дзе злыбяду матулі прыгарнулі,
Прыспалі,
Каб не кратала сыноў
Пасланніца эпохі лесуноў.

У неба зорнае зірні ўначы,
Дык гэта ж – ніва,
На якой матулі,
Рупліва жыта цёмнае жнучы,
Абначавалі,
Прысмерку не ўчулі.
Вязалі долі нашае снапы,
А кожны сноп на зерне не скупы.

Мы позіркам чым
На свет глядзім?
Хто ясніць нашай роспачы аблокі?
Пад зоркамі матуль
Нам відна ўсім.
Свет без сузор'я роднага бязвокі.
Зямное мітусні пусты хатуль
Напоўнім чым
Пад зоркамі матуль?

### ВЯЛЬМУЕ БОГ...

*Памяці Яго святасці Яна Паўла II*

Бог пасылае верных,
Каб яны
Пераканалі душы ласкай шчырай.
Мальбы недатыкальныя званы
Добраслаўляюць шлях у вечны вырай.

Бог давярае мужным
Весці люд
У непарушную Гасподу Веры.
Кут у Гасподзе вольны для пакут,
Засланы стол для Тайнае Вячэры.

Бог выбірае мудрых,
Каб вякам
Было з кім памаўчаць
І ўзважыць скруху.
І па жарсцве прыступна ступакам
Ступаць за далягляд,
Дзе светла духу.

Пасланнікі нябесныя,
Ад іх
Вядзе адлік бясконцасць маладая.
Вяльмуе Бог абраннікаў Сваіх.
Без іх
На сэрцы свету халадае...

Вечная памяць Яну Паўлу II.
Сустрэнь яго, Божа!

*4 красавіка 2005 г.*

Рыгор БАРАДУЛІН

# КСТЫ

Славутаму Браслаўскаму музею – быць жывым і неабходным усім! З паклонам Рыгор Барадулін 7.1.06 Браслаў

Мінск
Рымска-каталіцкая парафія
Святога Сымона і Святой Алены
2005

## З уступнага слова Алы Сакалоўскай

Сапраўдныя вершы пішуцца на нябёсах. Іх боскасць, веліч, узнёсласць нельга перадаць словамі. Іх можна адчуць толькі сэрцам. Таму выкажу тыя думкі, якія мне падказвае сэрца.

Як узнікла ідэя сабраць вершы ў адну кнігу, у прыватнасці гэтую? Гэта цяжка патлумачыць. Можа, і яе падказалі нябёсы? Калі сказала Рыгору пра сваю задуму, ён быў вельмі ўсцешаны, бо такая кніга была марай яго жыцця.

* * *

Гасподзь! Затрымацца дазволь
На гэтай грэшнай зямлі.
Зрабі ласкавейшы мой боль.
Душы раўнавагу пашлі.

Праз ноч,
Што жыццём наракла,
Я йшоў на Тваё святло.
Гублялася сцежка ў быллі,
Ды ў сэрцы світанне жыло.

Гасподзь! Прагані мой страх,
Што следам ідзе за мной.
Я, з праху зямнога прах,
Вінюся зямной віной.

Пачую Цябе і глухі.
Аддзячыць хачу стокроць.
Правіны мае і грахі
Даруй, літасцівы Гасподзь...

* Прапануем увазе чытача той самы тэкст, які Генадзь Каханоўскі даслаў у музей пасля першых чытанняў.

*Юбілей*

## Генаддзю Каханоўскаму (8.1.1936 - 15.1.1994) - было б 70

Генадзь Каханоўскі наведаў музей 28 студзеня 1989 г., калі праходзілі першыя "Браслаўскія чытанні". У нас на той час не было сталай сувязі і пра канферэнцыю Генадзь Каханоўскі пачуў ад сваіх



сяброў. Вырашыў прыехаць самастойна. Прыемна было, што ён высока ацаніў толькі што адчыненую экспазіцыю, адзначыў яе глыбокі гістарызм. На канферэнцыі без папярэдняй падрыхтоўкі падзяліўся сваімі ведамі аб тым, хто даследаваў Браслаўшчыну і пісаў пра рэгіён у XIX - пачатку XX стст. Пасля даслаў друкаваны варыянт на гэту тэму, які апублікавала раёнка разам з іншымі матэрыяламі чытанняў. Ад таго часу музей захоўваў сувязь з вядомым даследчыкам. Меў з ім не адну асабістую сустрэчу: і на Устаноўчым з'ездзе Беларускага краязнаўчага таварыства, на канферэнцыях у Наваполацку, Горадні. На памяць аб тых сустрэчах засталася падборка кніг з яго аўтографамі для музея. Засталіся светлыя ўражанні ад яго спагадлівага, зычлівага слова, карысных парад і заўваг.

*Кастусь Шыдлоўскі*

## З гісторыі вывучэння Браслаўшчыны

Браслаўшчына адорана багатай прыродай і змястоўнай гісторыяй. Здаўна яе зручнае геаграфічнае становішча прыцягвала увагу вояў-захопнікаў. Усё гэта прываржвала і даследчыкаў краю розных часоў. Адны тут нарадзіліся і выхаваліся пад уздзеяннем народных паданняў і песень жнеяк, пад уражаннем майстравых дойлідаў. Заезджых даследчыкаў уразіла магутнасць, хоць і аплаўленых пад прэсам стагоддзяў, земляных умацаванняў. Іншых інтрыгавала сюды легенда пра падземныя ходы, таямнічасць знікнення пал зямлёю людзей разам з храмам, галасы якіх можна пачуць, прыклаўшыся вухам да нейкай глыбінна-пакручастай адтуліны.

Восем карт і планаў старажытных фартэцый Станіслава Пахалавіцкага – выключна каштоўная крыніца, прыкладзеная ім да ілюстрацыі "Апісання Полацкага княства", сярод іх Браслава і Іказні. Гэтыя ж умацаванні бачым і на карце Тамаша Макоўскага, 1613 г. На малюнках дакладныя абрысы помнікаў дойлідства свайго часу. Шматлікія з гэтых картаграфічных малюнкаў прадстаўлены ў экспазіцыі Браслаўскага краязнаўчага музея.

генадзь каханоўскі

АДЧЫНІСЯ, ТАЯМНІЦА ЧАСУ



Мінск «Мастацкая літаратура» 1984

Аўтограф Г.Каханоўскага : *«Браслаўскаму краязнаўчаму музею з прыемнасцю ў час наведвання»*

Замежныя падарожнікі не раз згадвалі у сваіх дзённікавых запісах Браслаў, Друю, іншыя мястэчкі і вёскі. Італьянец А.Гваньіні апісаў гарадок Брацлаў (Браслаў), у якім стаяў замак ля высокай гары, а таксама адлюстраваў замкі ў Іказні, Дрысвятах, Друі. Пра гэта ж пісаў і Р.Гейдэнштэйн, швед Д.Персан, рускі В.Севяргін і іншыя вандроўнікі. Іх уражанні ад той паездкі чытаюцца з даверам па тагачаснай рэчаіснасці. Пра разважлівасць мясцовых людзей немец С.Герберштэйн пісаў, што іх "слова – золата".

Гэты азёрны край аказаўся ў полі зроку розных даследчыкаў. Адным з першых яго апісаў Адам Плятар (1790–1862 гг.), род якога тут быў шырока разгалінаваны. Вёў археалагічныя раскопкі і ў гэтых матэрыялах спрабаваў удакладніць славяна-балцкую мяжу рассялення. Шматлікія знаходкі трапілі ў яго хатні музей у Краславе, а частка пазней была ім ахвяравана Віленскаму музею старажытнасцей. Нешта захоўвалася яшчэ дома, нешта ў Бяльмонтах, у Дагдзе і іншых месцах.

Вялікую творчую працу выканаў ужо забыты археолаг К.Халдзеўскі, рукапіс якога мае каля 400 старонак, які так і не стаў кнігай, а толькі манускрыптам. А пачынаецца з даследавання помнікаў Падзвіння і завяршаецца еўрапейскай археалогіяй. Не выключана, што гэта быў выкладчык Полацкай езуіцкай акадэміі.

Краязнаўчае апісанне мясцін Браслаўшчыны зрабіў М.Балінскі (1794–1864 гг.) у "Старажытнай Польшчы" (т.3, 1843 г.), а таксама К.Буйніцкі (1788–1878 гг.), аўтар нарыса "Падарожжа па малых дарогах" (т.1 – 2, 1841 г.) і іншых кніг. Акрамя іх, даследаваннем тутэйшых старажытнасцей займаліся М.Борх, І. Брандт, пазней М.Без-Карніловіч, А.Сапуноў, Е.Раманаў, Ф.Пакроўскі, С.Сахараў, О.Гедэман і іншыя. Некаторыя з іх, асабліва Гедэман, прысвяцілі гэтаму краю свае самастойныя кнігі. У наш час пра Браслаўшчыну пішуць Г.Штыхаў, А.Дучыц, Л.Аляксееў, В.Шадыра, Э.Зайкоўскі і іншыя.

У гэтых мясцінах запісвалі беларускі фальклор браты Валяр'ян, Клеменс, Юльян Гжымалоўскія – частка была апублікавана ў першай палове XIX стагоддзя. Жыва цікавілася духоўнай культурай беларусаў гераіня паўстання 1830–1831 гадоў Эмілія Плятар (1806–1831 гг.). Пазней занатоўвалі фальклор Е.Раманаў, В.Рэут, І.Храпавіцкі, С.Сахараў, А.Грыневіч. На сучасным этапе вусную паэтычную творчасць тут запісвалі А.С.Ліс, Л.М.Салавей, А.С.Фядосік і іншыя.

Мастацкае асэнсаванне Браслаўшчыны знаходзім у творах Я.Драздовіча, П.Міpановіча, П.Сергіевіча, у фотаальбоме Зянона Пазняка і у творчасці сучасных спадкаемцаў.

Старанні многіх пакаленняў даследчыкаў далі магчымасць і правядзенне першай у апошнія дзесяцігоддзі раённай навукова-краязнаўчай канферэнцыі, каб акрэсліць дасягнутае і вызначыць напрамкі даследчыцкай думкі ў пазнанні Браслаўшчыны.

*Г.А.Кахаиоўскі, кандыдат гістарычных навук, старшыня краязнаўчай камісіі Беларускага фонду культуры.*

*Юбілеі*

# Да 85-годдзя Леаніда Аляксеева



*Леанід Аляксееў – вядомы расійскі археолаг, гісторык, доктар гістарычных навук. На пачатку сваёй навуковай дзейнасці Л.Аляксееў праводзіў абследаванне археалагічных помнікаў Браслаўшчыны, быў кіраўніком раскопак на браслаўскім замчышчы.*

*Нарадзіўся Л.Аляксееў 15 студзеня 1921 г. у сям'і патомных масквічоў і цяпер жыве ў Маскве, аднак яго навуковая дзейнасць вельмі цесна звязана з Беларуссю. У 1948 – 1949 гг. ён працаваў у Гродзенскім музеі, у 1950 г. стаў аспірантам Інстытута гісторыі АН БССР. З 1953 г. становіцца супрацоўнікам Інстытута археалогіі АН СССР у Маскве, але раскопкі праводзіць у Беларусі. Грунтоўна даследаваў Друцк і Мсціслаўль. Раскопкі ў Браславе Л.Аляксееў праводзіў на працягу двух летніх сезонаў 1955 – 1956 гг. Болей сюды не вярнуўся, хаця, як прызнаваўся ў размове пры сустрэчы, шкадаваў аб гэтым. Даследаванні Л.Аляксеева дазволілі ўпершыню рэканструяваць найбольш старажытныя старонкі гісторыі Браслава. Матэрыялы па Браславу былі апублікаваны ў шэрагу перыядычных выданняў, у манаграфіі "Полацкая зямля". Напрыканцы 80-х гадоў XX ст. Браслаўскі музей вёў перамовы з Л.Аляксеевым аб працягу працы на Замкавай Гары. Аднак археолаг палічыў за лепшае перадаць правы на далейшыя даследаванні браслаўскага замчышча Міхасю Ткачову, якога высока цаніў. М.Ткачоў і яго вучань Генадзь Семянчук правялі раскопкі ў 1989 – 1990 гг. Л.Аляксееў шмат вандраваў па Беларусі, збіраў краязнаўчыя і гістарычныя звесткі пра розныя мясціны. У выніку з'явілася кніга "По Западной Двине и Днепру в Белоруссии" (Масква, 1974 г.). У раздзеле "В краю западных озёр" ёсць нататкі пра Друю, Браслаў, Мікалаюнцы, Дрысвяты, Опсу. Выданне ілюстравана фотаздымкамі аўтара. Л.Аляксееў - добры фатограф. Захавалася цэлая калекцыя здымкаў, зробленых на Браслаўшчыне ў 1955 – 1956 гг.*

*Спецыялісты вельмі высока ацэньваюць унёсак Леаніда Аляксеева ў гістарычную навуку Беларусі. Адзначым таксама, што яго імя заўсёды будзе ў ганаровым шэрагу лепшых даследчыкаў мінулага Браслаўшчыны.*

**(Падрабязней пра юбіляра: Беларускі гістарычны часопіс № 2, 2006, с.45-48)**




**Аўтограф Л.Аляксеева : *«В музей древнего Браслава на память и с полным удовлетворением, что такое важное учреждение в таком городе, наконец есть! 29.IX.1987. Полоцк.»***

## Л.Аляксееў аб Браславе

*Сейчас этот маленький, очень чистый городок раскинулся на узком перешейке между озёрами Дривято и Новято и состоит в основном из двух «больших» улиц (Советской и Ленина), расходящихся на одном конце города и сходящихся на другом. Они огибают с двух сторон высокую Замковую гору – древнее городище с большими валами по периметру верхней площадки и высоким обелиском-памятником наверху. Улицы эти, как и соединяющие их небольшие переулки, прихотливо извиваются (не теряя первоначального направления) между низенькими заборчиками, состоящими из паутины железных сеток, что характерно, как увидим, почти для всех западно-белорусских городов. Вдоль сеток тянутся тротуары из больших каменных плит, а за ними стоят живописные деревянные домики с неизменными геранями на окнах, окруженные цветниками, небольшими огородами, садами.*

*З кнігі Л.Аляксеева "По Западной Двине и Днепру в Белоруссии".*

*Юбілеі*

## Кліменцію Кожану - 70

**Кліменцій Кожан** – адзін з вядомых краязнаўцаў Шаркоўшчынскага раёна. Жыве і працуе ў Германавічах, у асноўным даследуе свой раён. У біяграфіі юбіляра ёсць і старонкі, звязаныя з Браслаўшчынай.

К.Кожан нарадзіўся 23 студзеня 1936 г. ў в.Балбекі Шаркоўшчынскага раёна. Вышэйшую адукацыю атрымаў на філалагічным факультэце БДУ. У 1960 г. быў накіраваны на працу ў Браслаўскі раён. Да жніўня 1964 г. выкладаў рускую мову і літаратуру ў Карасінскай школе, а пазней працаваў у Рудаўскай школе Ахрэмаўскага сельсавета. У 1966 г. выехаў у родны Шаркоўшчынскі раён.

Менавіта на Браслаўшчыне К.Кожан зацікавіўся краязнаўствам, сярод іншага моцна паўздзейнічаў старажытны Браслаў з выразным замчышчам у цэнтры. Пасля стварэння ў Браславе музея ўсталяваліся сталыя кантакты К.Кожана з супрацоўнікамі. Гэтыя кантакты не слабеюць да гэтае пары. К.Кожан – удзельнік усіх навукова-краязнаўчых канферэнцый "Браслаўскія чытанні", аўтар публікацый у зборніках канферэнцый, у кнізе "Памяць" Браслаўскага раёна.

Насуперак жыццёвым абставінам К.Кожан працягвае актыўна займацца краязнаўчай дзейнасцю.

Поспехаў !

**Кастусь Шыдлоўскі**

# Вясковы канструктар Іван Агейчык



Ёсць такая катэгорыя людзей, якіх звычайны люд, заняты штодзённымі клопатамі, называе дзівакамі. Іх вольны час бывае заняты справамі, якія не даюць практычных выгод, а перад усім цешаць сэрца і душу.

У Гірэйшах і ваколіцах – Дрысвятах і Відзах, суседніх вёсачках Літвы добра ведалі Івана Агейчыка, канструктара лятальных апаратаў розных тыпаў і мадыфікацый, аэрасанак.

Успамінаецца карцінка з маленства: пагодны зімовы дзень у Відзах, заснежаныя вулачкі мястэчка. Цішыню разразае незвычайна высокі гук рухавіка. Яго чуваць здалёк. І вось ужо па вулачках імчыцца сам апарат – вазок на лыжах з вялізным прапелерам ззаду. Дзе б вазок не прыпыняўся, яго адразу абступалі цікаўныя. Абавязкова завязвалася размова з гаспадаром, невысокім рухавым мужчынам. Напэўна, такія размовы маглі б цягнуцца гадзінамі, але гаспадар спяшаецца. Заводзіцца рухавік, прапелер знікае, як нібыта раствараецца ў паветры, нас абдае снежным пылам. І – вазок набірае хуткасць, спаборнічаць з ім нам не па сілах. "Агейчык" – казалі ў мястэчку, пачуўшы асаблівы гук рухавіка. Гэта прозвішча запомнілася, як і назва незвычайнага вазка - аэрасанкі.

Пазней давялося сутыкнуцца з Іванам Агейчыкам на музейных справах. Ён перадаў некалькі гістарычных рэліквій, аказаўся добрым знаўцам вясковых ваколіц, а яшчэ чалавекам цікавага жыццёвага лёсу.

Іван, сын Фёдара Агейчыка, нарадзіўся 20 ліпеня 1922 г. ў вёсцы Запруддзе Сенненскага раёна. У гады вайны партызаніў, стаў камандзірам дыверсійнай групы, якая дзейнічала ў цэнтральных і ўсходніх рэгіёнах Віцебшчыны. У 1944 г. пасля злучэння з Чырвонай Арміяй апынуўся ў Барысаўскай гвардзейскай танкавай брыгадзе. У якасці камандзіра легендарнага Т-34 удзельнічаў у вызваленні Мінска. Потым год жорсткіх баёў заключнага этапа вайны. Вільня, Кёнігсберг, Гданьск, Пілау, Расток, Шчэцін – асноўныя пункты баявога шляху І.Агейчыка. Закончыў вайну на Эльбе, дзе сустрэўся з амерыканцамі. У Германіі праслужыў яшчэ год. У 1946 г. пасля дэмабілізацыі

І.Агейчыка накіравалі на педагагічную працу ў Шаркоўшчынскі раён. У асноўным выконваў функцыю дырэктара школ: у Каўшэлеве (1946–1950 гг.), Станіславове (1950–1954 гг.), Васюках (1954–1957 гг.), Бліноўшчыне і Кушталях (1957–1964 гг.). У 1964 г. І.Агейчык быў пераведзены на Браслаўшчыну, дзе ўзначальваў школу ў Ставарэлях. У 1965 г. школа, якая размяшчалася ў невялікім драўляным сядзібным доме, была перанесена ў Гірэйшы і названа Грытунскай. У гэтай школе І.Агейчык працаваў да выхаду на пенсію ў 1982 г. Кіраваў працай па пашырэнню школы. Выкладаў гісторыю (па гэтай спецыяльнасці атрымаў завочна адукацыю ў Даўгаўпілскім педагагічным інстытуце), цікавіўся краязнаўствам, збіраў экспанаты. У школе існаваў невялікі музейны куток.

Першапачатковай педагагічнай спецыялізацыяй І.Агейчыка была фізіка, а захапленнем усяго жыцця – канструяванне.



Аэрасанкі «Кушталі - 4»

Яшчэ да вайны, школьнікам, сканструяваў і зрабіў драўляны ровар. Пасля вайны напачатку захапляўся мадэліраваннем самалётаў і канструяваннем аэрасанак. Першыя аэрасанкі былі зроблены ў Шаркаў-шчынскім



Адна з мадэляў, зробленых у Гірэйшах

раёне. Захаваўся фотаздымак мадэлі пад наз-вай “Кушталі-4”, значыць, існавалі і папярэднія варыян-ты. Як мінімум чатыры мадэлі - адна- і двухмясцовых апаратаў былі зроблены ў Гірэйшах. Мадэлі адрозніваліся рухавікамі, канструкцыямі вазкоў. Аэрасанкі ў тыя снежныя зімы дазвалялі выбірацца з вёскі нават у тыя часы, калі вакол усё было замецена. Аэрасанкі І.Агейчыка з'яўляліся і ў Браславе, і ў Мёрскім раёне.

Самую кваліфікаваную працу І.Агейчык выконваў сам, але па магчымасці да працы прыцягваў і вучняў, каб захапіць іх тэхнічнай творчасцю. Усе жадаючыя маглі праехацца на аэрасанках. Часцей за ўсё па суботах пасля скарочанага школьнага дня ў прызначаным месцы збіраліся ахвочыя. Па чарзе аб'язджалі загадзя падрыхтаваную трасу, дзяліліся ўражаннямі.

Паглядзець на асаблівасці канструкцыі аэрасанак І.Агейчыка прыязджалі іншыя ўмельцы, нават з Літвы.

Адным з моцных захапленняў І.Агейчыка была авіяцыя. Ён выпісваў розныя спецыяльныя часопісы, набываў кнігі, спрабаваў свае сілы ў мадэліраванні і канструяванні. Яшчэ ў Кушталях перад будынкам школы ўстанавіў макет самалёта. У Грытунскай школе арганізаваў мадэльны гурток. Адна з кіруемых мадэляў гуртkоўцаў удзельнічала ў абласных спаборніцтвах. Найбольш жа карцела зрабіць лятальныя апараты сапраўдныя.

Першым вырабам стаў самалёт, перароблены з планёра. Старэнькі планёр фабрычнай вытворчасці вясковы канструктар атрымаў у падарунак у Даўгаўпілскім аэрадроме. Трэба было істотна перарабіць корпус, устанавіць рухавік. І вось мадэль гатова да выпрабаванняў. На больш-менш роўным кавалку саўгаснага поля самалёт бярэ разгон. Прысутныя бачаць адрыў колаў, але вышэй самалёт не падымаецца. Справа не ў тэхніцы. Без спецыяльнага дазволу ў паветра не можна было падымацца. Яшчэ перад выпрабаваннем сілуэт самалёта заўважылі з ваеннага верталёта. Неўзабаве сядзібу І.Агейчыка наведалі ваенныя. Яны агледзелі апарат, высветлілі, што да чаго і папярэдзілі, што падымацца ў паветра не дазволена. Такім чынам, самалёт, за штурвалам якога сядзеў сам канструктар, рабіў толькі спробы на адрыў. Падчас адной са спроб колы зачапіліся за няроўнасць і самалёт перакуліўся. На шчасце, пілот значна не пацярпеў. памятаю, у Відзах на поўным сур"ёзе

казалі: "Агейчык узляцеў, але быў збіты ракетай – цудам застаўся ў жывых".

Наступным лятальным апаратам быў аўтажыр. Канструкцыя яго блізкая да верталёта. Рухавік аўтажыра, размешчаны ззаду, стварае цягавую сілу, паток паветра раскручвае гарызантальны вінт, які адрывае апарат ад зямлі.

Выпрабаванне аўтажыра напачатку рабілі на платформе грузавіка. Аўтамабіль разганялі па дарозе і назіралі, як дзейнічаюць вінты. Наступнае выпрабаванне – з рухавіком. Апарат адрываўся ад зямлі, праўда, з невялікім нахілам.

Лятальныя апараты, відавочна, не прыносілі ніякай карысці, але рабіць іх было надзвычай захапляльна, таму ў канструктара не апускаліся рукі. Напэўна, цеплілася і надзея ўбачыць родныя мясціны з вышыні птушынага палёту. Аднак і апошняму лятальнаму апарату – мотадэльтаплану, не было наканавана падняцца ў паветра. Апарат рабіўся напрыканцы 70 – пачатку 80-х гадоў XX ст. Выпрабаванні паказалі, што дэльтаплан дае невялікі нахіл. Пазбавіцца гэтага недахопу было рэальна, але пры адным з выпрабаванняў дэльтаплан зачапіўся за дрот і атрымаў значныя пашкоджанні. Аднаўляць сваё дзецішча канструктар не стаў. Апарат прасілі прадаць зацікаўленыя асобы, але І.Агейчык не захацеў. Не дзеля матэрыяльнай выгады займаўся аматар-канструктар сваёй справай, ён насіў у сваім сэрцы вялікую любоў да тэхнікі, імкнуўся перадаваць яе іншым. Без такіх апантаных ідэяй людзей свет быў бы значна больш шэрым.

Памёр Іван Агейчык у сакавіку 1998 годзе, пахаваны на Відзаўскіх могілках.



**Самалёт канструкцыі Івана Агейчыка**

*(Вялікая ўдзячнасць Пятру Агейчыку, сыну героя артыкула, за прадстаўленыя біяграфічныя матэрыялы і фотаздымкі.)*

## *Гартаючы старыя газеты*

*У другім нумары "Павета" за 2005 г. мы змясцілі матэрыял пра беларускага дзеяча Браслаўшчыны, паэта, селькора Дзмітрыя Пучынскага (1923-1967). Вось што ён пісаў у 60-я гады пра музейную справу ў Браславе.*

*Матэрыял узяты з архіва Дз.Пучынскага – гэта газетныя выразкі без пазначэння дакладнай даты і газеты.*

### У школьным музеі

Браслаў – адзін са старэйшых гарадоў нашай рэспублікі. У цэнтры горада, як вялізны мамант, узвышаецца Замкавая гара. Тут нядаўна рабілі раскопкі археолагі з Ленінграда і Масквы.

Вельмі зацікавіўся гісторыяй Браслава выкладчык гісторыі мясцовай сярэдняй школы тав.Гарэлік. Па яго ініцыятыве ў адным з пакояў школы створан музей. Тут афармлены стэнды "Ведай свой край", "Героі не паміраюць", "Народныя мсціўцы", "Што паказалі раскопкі Замкавай гары", "Па ленінскіх месцах" і г.д.

На Браслаўшчыне жывуць удзельнікі вялікіх падзей Кастрычніцкай рэвалюцыі С.Ваявода, К.Скрабоўскі, С.Дзярук, А.Палішын і іншыя. У матэрыялах музея шырока расказваецца аб іх дзейнасці.

Хутка Браслаў будзе адзначаць сваё тысячагоддзе. У музеі ляжаць ключы ад горада з дня яго заснавання.

### Браславу – краязнаўчы музей

Пытанне аб адкрыцці музея жыхары Браслаўшчыны ўзнімалі не раз. Але гарвыканком чамусьці адмоўчваецца і не прадстаўляе памяшкання.

А ў Браславе музей вельмі патрэбен, бо горад гэты – адзін са старэйшых у рэспубліцы. Аб ім і яго людзях – многа цікавых матэрыялаў. Браслаўшчына – радзіма мастака Пятра Сергіевіча, карціны якога можна знайсці ў многіх мясцовых жыхароў.

У нас бываюць турысты з розных гарадоў, і музей адыграў бы сваю выхаваўчую ролю.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)